*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 12 | 27-га красавіка 1927 г. | № 12

## ВЯСНА Ў ВЕСЦЫ

### Г. АСОТ

Вясна. Распускаюцца ціхія вербы
і ўся расьцьвітае зямля.
Здаецца прадоньнем блакітнае неба,
істужкай узорнаю шлях.

А лес галаву узьнімае да сонца
і песьню шапоча вясьне.
Наўкола імклівая радасьць бясконца,
што думаеш—гэта усьне.

На полі, ‘шчэ ціха, і толькі на ўзгорку
араты за плугам ідзе.
У вёсцы да сонца ліецца гаворка—
зараней вітаюць там дзень.

Вясновыя песьні сьпяваюць дзяўчаты,
абрусы кужэльныя ткуць.
Зіяюць саломаю новаю хаты,
трыер шуміць на таку.

Гэта Мікола сартуе насеньне:
— Годзе нячышчаным сеяць!
Ня ведаў дагэтуль ад зельля спасеньня,
Хоць валасы ўжо сівеюць.—

Мікола закончыў ,і радасна, звонка
гукае: —Бярыся, другі..

. . . . .

Мужчыны сядзяць і разводзяць гамонку,
чакаюць на трыер чаргі.

Часамі за гумна выходзіць каторы,
глядзіць на палетак даўгі:
ён думае думу ці скора
засьвішчуць у полі плугі.

І радуе сэрца ад трыера лёскат,
зьнікае жалоба і сум.
Шумліва, і звонка, і радасна вёска
сустракае заўсёды вясну.



Насталі цёплыя веснавыя дні—ажывае вясковая вуліца.

# ХЛЕБАРОБ

*(Пераклад з Б. Грынчэнка)*

Ў цяжкай працы прашлі дні мае,
І памерці як прыдзецца мне,
Толькі сэрдца, сатлеўшае з мукі,
І мазольныя гэтыя рукі
Я складу у сасновай труне.

Шнур кароткі я поля араў,
Ды за плугам ніколі ня спаў,
Як рабіў, дык рабіў ўжо да краю,
І ўсю сілу, што меў я і маю,
На няўтомную працу я клаў.

На тым полі каменьне было,
Поле пырнікам ўсё зарасло.
Спатыкаўся мой плуг на тым полі,
Ды рабіць ня кідаў я ніколі:
Плуг блішчэў мой заўсёды, як шкло.

У пагоду, ў нягоду я там:
Без работы так нудна рукам!
Няхай дождж і праз рваную сьвіту
Сьпіну кропіць ўсю потам абліту,—
Адпачынку-ж сабе я ня дам.

Сколькі поту свайго я праліў,
Сколькі сілы я там палажыў,
Але глупства: ўзараная ніва
Нам давала багатае жніва—
Недарэмна я столькі рабіў.

Напаўняў хлебам ток я шмат раз,
А цяпер вось праходзіць мой час;
Адчуваю: апошняе лета
Бачу ў золата поле адзетае,
Бачу, нівы шырокія, вас.

Мае дзеці зьбяруць ураджай...
Усяму падыходзіць свой край;
Ён прыйшоў ўжо і мне: ў дамавіну
Я іду і навек адпачыну,—
Мае-ж дзеці зьбяруць ураджай.

Мае дзеці—дачкі і сыны—
Усе разам, сабраўшысь, яны,
Хлеб, здабыты рукамі маімі,
Кроіць стануць,—тады перад імі
Аджыве вобраз мой, як жывы.

І за тое, што здолеў я іх
Мазалямі ўзрасьціць рук сваіх,
Аба мне ня так хутка забудуць,
Пасьля сьмерці маёй ісьці будуць
Яны доўга па кроках маіх.

Так у працы прайшлі дні мае,
І памерці як прыдзецца мне,
То бяз сораму гэтыя рукі
Разам з сэрцам, сатлеўшым ад мукі,
Я складу у сасновай труне.

*П. Росіч.*

# Ў ДАРОЗЕ

Рагнеда Бярэзінская

Сьнежная раўніна
Ды прастор палёў.
Зрэдка голая асіна,
Ціхі шэпт кустоў.

І ішчацца коні—
Замірае дух,
Прамелькаюць гоні.
Сьнег, як белы пух.

Вецер кіне ў вочы
І ляціць далей,
Потым зарагоча
Ён яшчэ сьмялей.

То ізноў гульліва
Жартаўнік пяе,
То мяне маўкліва
Шчыра абайме.

То ласкае квола
Любы чараўнік,
То ў далёкім полі
У просторы зьнік...

Станькава.

# Возера

Гараўскі

Глыбокае, як ноч васеньняя і сіняе, як вочы дзяўчыны, спакойна калыхалася яно ў ціхую пагоду і ціха абмывала прыбярэжны пясок.

Днём у ім купалася сонца, ноччу зоры гарэлі, і месяц срабрысты глядзеў у яго глыбіню. Спакойнае было тады возера, калі вецер сьціхаў і маланкі ня рэзалі неба; гладкая і празрыстая была яго шыр; толькі ціхія хвалі лёгка плёскаліся аб берагі. Чарот ды аер купаліся ў яго спакойнай вадзе. А па берагох дубы стогадовыя, цяжка зьвесіўшы ў ніз сваё тоўстае сучча, моўчкі глядзелі ў яго ваду, хочучы глянуць у яго глыбіню.

Але нічога ня відаць там было ў возеры, толькі неба, неба пагоднае, там адбівалася і белыя хмаркі плылі спакойна як у гары. Не хацела возера адкрываць свае думы сумлівыя, сінім небам прыкрыла сваю глыбіню і ціха калыхалася, як матка калыша сваё дзіцянё.

Ніхто ня мог пабачыць яго глыбокага дна, бурлівага і неспакойнага ў часе самага ціхага і цёплага надвор'я. Яго шыр была мяккая як сэрца, перажыўшае многа жыцьцёвага гора. Чула прыслухоўвалася да гаворкі дубоў і радасных сьпеваў вясёлага ветру.

Калі хмаркі пушыстыя санліва купаліся ў ім, супачывала тады возера, пералівала свае дробныя хвалі. А калі раніца гарэла сталёвымі зорамі, туманам ухутвалася возера, шэрым туманам. А тады, калі з зарасьнікаў выплывалі чаўны і зьвінелі рыбацкія песьні, радасьцю

# У ТЫЯ ДНІ



Як белапалякі расстрэльвалі беларускіх партызанаў у 1920 гадзе.

пераліваласяі возера і звонка сьпявала вясёлымі пералівамі балотнае машкары. Радасна шчэбяталі птушкі на дубох, вясёлым шчасьцем шэлясьцела лісьце і порсккія, поўныя неўгамоннага жыцьця рыбкі вясёла ныралі ў празрыстых хвалях возера.

Кіпела жыцьцё.

Радасным вясельлем усьміхалася возера.

Толькі калі дубы старыя плакалі на беразе, плакала возера.

Вецер дзіка сьпяваў, кідаў пену дажджу, а вада бурліла, сярдзіта ўздымаючы цяжкія грэбяні хваляў. Дрыжэлі і плакалі зарасьнікі, безнадзейна калыхаліся над бушуючай вадой. Сьціхалі тады звонкія песьні і зьнікалі лодкі. Глыбіня падымалася, чорная і няпрыступная пенілася сваімі магутнымі грудзьмі. На кожны новы парыў нясутрымнага ветру, адгукалася яшчэ сярдзіцей і магутней. З глыбіні напывалі чорныя хвалі, зьнізу плылі, адтуль куды сонца ніколі не сьвяціла. Магутныя былі тыя хвалі і бурлівыя. Упэўнена і сьмела ўздымаліся на змаганьне з сярдзітаю бураю. Нішто іх не магло сутрымаць. Сваімі цяжкімі грудзьмі моцна білі аб пясок прыбярэжны.

Толькі неба плакала над бурнай і чорнай глыбінёй возера, плакала дробнымі каплямі дажджу. Стагнала халоднае неба пяруновым водгульлем і плакала. Выў па берагох дзікі вецер, кідаўся як вар'ят, вырваўшыся на волю, і зноў плакаў безнадзейна ў мокрых берагох.

Гаманілі і стагналі дубы.

Возера, непакорнае, змагалася з бурай. Кіпела сілай сваіх магутных грудзей. Рвала халодныя аковы берагоў, сваёй глыбінёй залівала бязьмежныя прасторы.

# Сенажаць

*(Апавяданьне)*

**Ал. Вясковы**

Як трохі пачне абсыхаць зямля, робіцца сушэйшаю сьцежка, і пачынае адскакаць на лузе зялёная травіца, тады сярод зарэчанцаў можна чуць:

— Гэта-ж трэба гадзіць пастуха. Чаго-ж адцягваць?

— Каго-ж гэта сёлета згодзяць?

— Невядома яшчэ. Адны хочуць Юзіка, а другія Адася,—скажа хто небудзь.

Калі толькі пачнуцца такія гутаркі, то гэта значыць, што дзень, калі будуць гадзіць пастуха—недалёка.

У адну з нядзель зьбіраюцца ўсе ў Народны дом па аднаму з хаты, найбольш старыя мужчыны ці кабеты, калі няма дома мужчын, гадзіць пастуха.

Раней, як ня было Нардому, зьбіраліся ў чыёй небудзь хаце, а ў цёплыя дні на прызьбе чыйго небудзь двара.

Гэтак было мінулаю вясною. Пасьнедаўшы пачалі ісьці ў Народны дом—гадзіць пастуха.

— На схо-о-д, гадзіць пастуха — крычаў працяжна хто-небудзь з старых, ідучы каля плоту.

Два словы „гадзіць пастуха“ значылі, што на сход павінны ісьці старыя. На сходзе выявіліся два конкурэнты: Адась і Юзік. Адны хацелі аднаго, другія другога. Кандыдатуры абмяркоўваліся з усіх бакоў.

— Мужчыны, як сабе не кажэце, а пастуха трэба згадзіць добрага. Гэта пастух, калі яго будзіць трэба кожнае раніцы? А каровам, зноў, вечна бакі сьпісяжыць. Што-ж гэта за пастух — гаманіла цётка Матруна.

Доўга ішлі спрэчкі з-за пастухоў. Цэлае расслаеньне, як пры перавыбарах сельсавету, адбылося між сялян.

Згадзілі Юзіка, то няхай вашы адны й пасе.

— Каб мы большае бяды ня мелі,—адказалі другія.

Праз некалькі дзён устанавілася згода, і быдла хадзіла разам.

Калі быў напісан протокол і закончана афіцыйная частка сходу, тады дзядзька Мікалай, устаючы з лаўкі, сказаў!

— Мужчыны, калі-ж ён ужо пагоніць у поле?

— Куды-ж гнаць, калі травы няма.

— Чаму куды? На луг, пакуль трава ў лесе ды на полі зьявіцца.

— На луг? Што вы, дзядзька, надумаліся? Гэта-ж глум для сенажаці. Чулі-ж мо' што казаў агроном,—адгукнуўся з кутка Янка, малады гадоў 19-ці хлопец.

— Ты слухай вельмі гэтых граномаў, то каровы ў хляве з голаду пазайходзяцца.

— Што, ты, Мікалай, з ім гаворыш—перабіў Міколу Базыль,—малако на губах не абсохла, а ён бярэцца старых вучыць. Яго саўсім тут ня дзела. Бацька на гэта ёсьць, а ты памаўчы ды паслухай.

— Яно, ведаеце, гэтакава дзела. Бацькі нашы, як усім вядома, да Юр'я пасьвілі, то чаму нам ламаць старыя звычаі. Жылі яны і мы будзем жыць,—дадаў Рыгор Нярупны.

— Вашы бацькі жылі бяз хлеба, а вы будзеце жыць бяз сена,—уступіўся за Янку Грышка комсамолец.

— Бач ты, блазьнюкі, пачалі старых вучыць. Мы, можна сказаць, на гэты сьвет іх пусьцілі, а яны нас вучаць, хочуць разумнейшымі быць.

— А на гэта вялікай навукі трэба,—зарагаталі, сказаўшы хлопцы.

— От, прыкусеце трохі языкі ды памаўчэце. Вельмі ўпраўныя ўсюды. Чаго вам свае языкі ўсюды ўтыкаць?

— Я-ж кажу, цяпер старым пробыту няма за маладымі,—уставіў, працадзіўшы праз зубы, Янка Говарка.

— От ты, Юзік, ня слухай нікога, а ў тую нядзелю, што прыдзе, займай ды гані на луг, хай ходзяць пакуль трава зьявіцца на полі.

Так і было, як сказалі мужчыны. Да Юр'я каровы хадзілі па лузе, як караблі па моры. Раздольле для пастуха і кароў.

— Што гэта сёлета робіцца? Каровы ўсю весну ходзяць па лузе, мусіць ня думаюць аб зіме мужчыны,—гутарылі ідучы ў мястэчка хлопцы. Выган з лугу зрабілі, ды годзе.

— Нічога адрасьпе, гэта-ж ні пяршыня. Аднак пасялкоўцы і на начлег езьдзяць,—успакойваў хлопцаў мужчына, ішоўшы разам, а ў самога трывожная думка:—зглумілі самохцам санажаць,—закрадвалася ў сэрца.

* * *

Прашла сёмуха, а з ёю і Пятра надыйшло—час касьбы ў вёсцы. Гарачы летні час. Накляпалі мужчыны косы і пашлі, сабраўшыся грамадой у адзін з летніх днёў, на сенажаць.

Прышлі і вачам ня верапь: перад іх вачыма быў перагружаны выган. Паміж куп'я дзе-ні-дзе паадскаўшы расла каліўямі тоненькая травіца.

— Вось дзе ляснула сенажаць, — успляснулі рукамі мужчыны.

— А я ды Грышка, што тады казалі, як гадзілі пастуха, памятаеце?— адазваўся Янка.

— Вы казалі? Цяпер вы ўсе разумныя, а тады дзе былі? Хай-бы сабраліся гуртам ды ня пусьцілі на луг?...

— Не, гэта добра. Дзесятым закажуць як пасьля зімы на гразкую сенажаць каровы пускаць,—сказаў хтось з маладых.

* * *

Ледзьве зіму пераможылі. Некаторыя ад каляд сена ў другіх вёсках куплялі. З нецярплівасьцю вясны чакалі.

Надыходзіць і вясна. Хутка зноў заречанцы зьбяруцца ў Нардом гадзіць пастуха. Зноў будуць спрачацца за кандыдатуры пастухоў, а пасьля зноў пастух пойдзе займаць каровы першы раз пасьля зімы. Дзіўным пакажацца першы раз вясною голас яго „выганяй!"

— Але леташняга ня будзе. Станем у канцы вёскі гуртам, ды на поле завернем,—казалі хлопцы.

— А як на гэта паглядзяць старыя?— можа забыліся?—нехта сказаў.



## БЕЛАРУСІ

### Ізраіль Плаўнік

Ой пайду,
Расцалую зару,
Што вясёлкай у сіні
мігціцца...
Палюбіў я цябе,
Беларусь!..
Ты чароўнай
Цьвіцеш маладзіцай.

Вочы сінія,
Кужальны стан...
Русы-косы—
Ручайкі лёну...
Ці-ж магу я
Кахаць перастаць
Векавыя дубы і клёны?!.

Уплятаюць
Праменьні вянкі
У хваліста-шаўковыя косы
Іскры сыплюць
Вачэй аганькі:
Радасьць сьмех—
Завіваюцца ў просіні.

Ой сьмяюцца
У палёх васількі,—
Дзе раней кроплі сьлёз
мігацелі...
І губляюць бярозкі
Лісткі
На тваёй
Залацістай пасьцелі.

Нібы мармур,
Бялее чало...
Часам бровы нахмурыш
задумна:
Перанесьці,
Ой, шмат давялося,
Дарагая,—
І зьдзеку, і глуму!..
Гэта ў песьнях
Журботных чуваць,
Гэта кажуць лістотаю клёны...
Але больш
Не акропіць туга
Твайго поля
Квяціста-зялёнага!..

І таму я
Цябе пакахаў:
Ты вясёласьць—
Пазнала у суме...
Звоніць песьню
Бярозавы гай:
„Беларусь
„Маладзіцай
„Красуе!.."

Менск, 1926 г.



# Ў ПАЛЁХ ДУШЫ

Б. Каліноўскі

Ў палёх душы сярэбранная ціша
Гарыць ў лёгкасьці грудзей маіх зара.
І сэрца радасьць ледзь калыша,
Прышла пара, інакшая пара.
Няхай было, няхай зьвінела,
А сёньня дымам ўсё прайшло.
На вуснах радасьць забялела,
На сэрцы шчасьце зацьвіло.
І вось таму, ў прасторы сьнегавыя
Хачу ісьці сьмяяцца аж да сьлёз.
Абняць таполі маладыя,
Абняць прыгожы стан бяроз.
Сказаць: я тут, я разам з вамі,
Іду, ня плачу, ня журуся,
Сьпяваю з белымі сьнягамі
Пра радасьць вольнай Беларусі.
Няхай было, цяпер ня будзе.
Заціх у сэрцы галас завірух.
Замоўкла хворае у грудзях,
І сьлёз агонь, даўно патух.
Ў палёх душы сярэбранная ціша.
Патухла ў шэрані, грудзей маіх зара.
І сэрца радасьць ледзь калыша,
Прышла пара, інакшая пара.

# СПЛЯЛОСЯ ВЕЦЬЦЕ ВІШАНЬ

Янка Гоманаў

Сплялося ў белі вецьце вішань,
На буйны росы лёг туман;
І вецярок лісты калыша,
І на душы тугі няма
Віюцца, звоняць дум каралі—
Дзе пуцявінка ў даль бяжыць,
Дзе разышлося жыта хваляй
На васільковай, на мяжы.
Дзе наліліся клёны сокам
Вятрыска гойсае ў трысьці.
Душа пяе, і песьня-сокал
у даль ляціць,
ляціць
ляціць.
Уюцца сьцежачкі,
Ў даль бягуць,
На паўмежачку
На лугу
Сосны ўмежані...
Казкі зор...
Уюцца сьцежачкі
У зелен-бор.
Ўюцца, гоняцца
Ў далячынь,
Песьня звоніць дзе
І гучыць,
Там дзе вішанкі
Беляць сад
Дзе калышыцца
Паласа.

# Абсыхаюць платы

Максім Лужанін

...І я гляджу, як уздоўж шэрых, ахутаных змрокам вуліц абсыхаюць платы. Таму і пахне—сьвежа расьпіленым дрэвам і некаю мутнаватаю вільгацьцю. І ўсё пужлівей хутаецца зямля ў змрок, туліцца, уздрыгвае.

Дзесьці на акраіне смутна абзываецца стары звон, неяк глуха асядаюць гукі і коцяцца павольна, задумана.

Не залоціцца ад сонца маё вакно... Дзесьці далёка, ў другой палове сьвету, узыходзіць цяпер сонца, а разам з ім прыходзяць—да адных радасьць, для другіх сум і руплівая патрэба ў кавалку хлеба.

На вуліцы ціха...

Трохі шарпаюць ногі па драўляных тратуарах—пробуюць хадзіць босыя. Асаблівую радасьць гэта прыносіць дзецям.

І я гляджу, як усьпёршыся на гзымс старога дому, маленькая дзевачка разувае яшчэ меншага хлапчука, сьцягвае з тонкіх ножак жоўтыя панчошкі і хавае іх у чаравікі. Сама яна ўжо разутая і пужліва азіраецца на бацьку, што працуе тут недалёка: мосьціць вуліцу. Але яму не да дзяцей; вельмі ўжо занятыя і захоплены ён сваёю працаю; вось пабеглі яны, босыя і радасныя, звонка сьмяючыся.

Добра, калі сьмяюцца дзеці... Можа толькі ў дзяцінстве бывае чыстая шчырая радасьць, не заплямленая ні боязьню ні журботай. Можа таму гэтак падобны дзіцячыя сьлёзы да сьмеху. Некая нязьведаная чыстасьць і глыбіня ў іх, і гэтак скора цешацца дзеці—сьлёзы і ўсьмешка...

За вакном плот і так сама мокры, а за плотам агарод і рака з вольхамі ўздоўж жвірыстага берагу.

Вось ідзе з агароду жанчына з лапатаю.

Яна ўскапала зараз апошнюю граду і таму з пад сіняе паліняла хусткі выбілася потная пасма валасоў.

Пахнуць чорныя грады...

Як быццам ад зямлі ўздымаецца напруджанае чаканьне насеньня, жаданьне тварыць, жаданьне даваць жыцьцё. І гэты пах некі востры і трывожны.

Усё гусьцее змрок...

## ПРЫЙДЗЕ ЧАС РАСПЛАТЫ

Янка Шавель

Сумуюць, стогнуць, плачуць людзі
Пад страшным гнётам капіталу,
Але ня доўга гэтак будзе
Пара ня тая ўжо настала.

Настане хутка час расплаты,
На землю прыйдзе страшны
суд—
Суд будзе страшан толькі
катам,
Сустрэне шчасьце бедны люд.

Ва ўсіх дзяржавах разгарэўся
Ужо рэволюцыі пажар;
Ідзе брат з братам проціў катаў,
Каб скінуць з плеч сваіх цяжар.

Даждуцца людзі таго часу,
Калі на ўсім зямным шары
Ня жыць багатаму ўжо клясу
І будзе існаваць СССР.

В. Кухцічы, Узьдзенск. р., Меншчына.

## Я ЎСПОМНІЎ

С. Ліхадзіеўскі

Успомніў сягоньня я вёску,
Маленства гады дзе пражыў.
Будынкі, кляны і бярозкі,
Палеткі, быльнёг на мяжы.
Успомніў сягоньня я вёску.
Успомніў лужок той зялёны,
Дзе коні я пасьвіў ня раз.
Насьпелага жыта калёны,
Што золатам ярка гараць.
Успомніў лужок той зялёны.
Цяпер я у ростані з вамі,
Палі васількоў і лугі,
Імшары—балоты з кустамі,
Цяпер я ўжо ў месцы другім—
Цяпер я у ростані з вамі.

Куток мой радзімы, вядомы!
Прывабны сягоньня мне ты.
Абгніўшыя стрэхі з саломы,
Палетак аўса залаты—
Куток мне радзімы, вядомы.

* * *

Радзіўся у вёсцы кудлатай
І рос у сялянскай ён хаце.
Галодны, адзетак на латах...
У сьлёзах тапілася маці...
Учора яшчэ статак, пуга.
Зялёныя родныя гоні...
Учора хадзіў ён за плугам
Студэнтам рабфаку сягоньня.

---

Часьцеюць крокі за вакном. Цяпер вальней можна наглядаць за людзьмі, за іхняю працаю і турботамі.

...Пазьбіралі малаткі і пашлі рабочыя, што ўвесь дзень масьцілі вуліцу. Яны скора скончаць, бо вуліца кароткая і вузкая і працы засталося толькі на некалькі дзён. І радасна глядзець на сьвежы брук і жвір насыпаны ўздоўж вуліцы.

Апошнім выбраўся рабочы Макарчук. Жыў ён на гэтай жа вуліцы і таму не сьпяшаўся. З некім замілаваньнем прыкладаў ён камень да кяменю, прыстукваючы зьверху малатком, але, урэшце ўсьперся на малаток і ўстаў, абіваючы з вопраткі пясок.

— Юзік! Анелька! Хадзем вячэраць! паклікаў ён дзяцей.

Недзе залапаталі босыя ногі...

З-за кута выехалі падводы. Гэта прывезлі яшчэ пяску і каменьня.

— Чаго-ж гэта вы апазьніліся?--запытаўся Макарчук.

— От неяк з гораду позна выбраліся, а пакуль туды, дак і сонца зайшло.—растлумачыў пярэдні падводчык.

Мужчыны прыпынілі коняй.

— Ды яно, можна сказаць, і не спазьніліся,—гаварыў далей падводчык...

Яшчэ агонь ня ўсюды папальвалі ды Макарчук да хаты ідзе.

— Ну вядома з пустымі хурманкамі не выпадае ехаць, а каменьня набраць, а тое сёе дык і пазнавата...

— От познавата, ні пазнавата, працягнуў хлапец у жоўтым ватовым курціку. Нікому робім, як сабе. Нам-жа ад хурманкі плаціцца. Ты сабе калі хоч—раз прывязі, а хоч і дык дваццаць зьвярніся. Нікому робім—сабе.

— Дык можна хоць цэлую ноч вазіць... Папрабуй, Рыгор, гэтакіх заработкаў, засьмяўся Макарчук.

Са змроку ад апошняе хурманкі вышла шчуплая постаць з ускудлачанаю барадою.

— А ў мяне, дзяўчынка памерла, прамовіў прышоўшы ні з таго, ні з сяга.

— А што ёй такое?—запытаўся Макарчук.

Черная барада смутна ўсьміхнулася.

— Нельга сказаць, каб ёй што здарылася. Учора бегала вясёлая дзяўчынка, а от кагадзе жонку стрэў, дык яна й сказала.

— Так... працягнуў Макарчук.

— Так...

— Дык я заўтра мусіць і на рабоце ня буду.



**ДАВІДОВІЧ ЯЗЭП** селянін вёскі Галіца Астрашыцка-Гарадзецкага раёну, з сваёй сям'ей. Ст ытач „Белгрускай ".

## БЯГУЦЬ ГАДЫ

### В. Бальцэвіч

Бягуць гады! Упярод бягуць,
Бы караблі па сінім моры.
І адкрываюць яны нам
Жыцьця ўсё новыя прасторы.

Жыцьцё цячэ, то як рака
Бурлівай хваляй, нясутрымнай,
То як крынічка між імшар
Журчыць, плюскоча бязупынна

Нясе ўпярод мой чоўн рака
Туды ў нязьведаныя далі...
Нясе ўпярод і ўжо назад
Мой чоўн ня вернецца ніколі...

І новы шлях перада мной
Па ім цяпер пайду я з жарам!
Збываецца сягоньня ўсё
Аб чым я ўчора толькі марыў.

На віве з плугам працаваў
У роднай вёсцы я учора
Навукай сёньня прывітаў
Мяне жаданы шумны горад.

І вось цяпер перад вачмі
Устае кут родны у тумане...
І ў гэты час здаецца мне,
Што я ізноў на родных гонях.

Кіпіць жыцьцё! І мой чаўнок
Жыцьцёвай хваляй хутка гоніць...
Па новым радасным шляху
Пайду бадзёра я сягоньня!

---

Жаліўся ўскудлачаны дзядзька...

— Яно табе й хадзіць не выпадае,—абазваўся нехта ў доўгім рудым балахоне...

— То вы, мужчыны, вазьмеце хто майго каня, ды вазеце заўтра на дваіх, а мне якога паўрубля перакінеце.

Маўчалі. Ня то каб, ня было чаго чаго гаварыць, ня то аб нечым думалі...

— Ходзіш сягоньня, а заўтра цябе такое ліха сустрэне, што і ў думках ня трымаў,— прамовіў хлапец у жоўтым курціку.

— Як майго дзядзіка, зноў абазваўся балахон.

— Давайце хіба вазы абварочваць, от і я вам памагу, сказаў Макарчук і пашоў к хурманкам, і калі перакідалі апошні воз убачыў Макарчук свайго хлапчука што спакойна стаяў па другі бок падаючага воза...

— Уцякай! крыкнуў Макарчук і кінуўся да яго. Але недабег... Пакацілася каменьне.. Мігнула маленькая ножка ў жоўтай панчошцы, некі здушаны крык пракаціўся, і зноў маўчала вуліца, толькі коні церабілі сена тоўстымі, добрымі губамі...

А калі раскідалі каменьне. хапіў Макарчук на рукі маленькае пакалечанае цельца. Жыцьця ў ім ня было...

Аднекуль прыбегла дзяўчынка і, ўсхліпваючы, ўчапілася ў бацькаў рукаў.

Глуха перагаварваліся падводчыкі.

Макарчук палажыў хлапчука на зямлю і яшчэ раз паслухаў сэрца... Маўчала яно, быццам выляцела з цеснае клеткі птушка і ўзьвілася высока, высока.

Як-бы ў адказ аднекуль здалёк прыляцелі прыкрыя гукі музыкі ды яшчэ атруцілі адзіноту.

Макарчук пачуў, яго нехта лёгка крануўся. Проста яго стаяў дзядзька з лахматаю барадою...

Слухай, сусед: як-бы саромеючыся пачаў ён...—Калі яно гэтак прыпала, то давайце заўтра разам хаваць будзем... Дзешавей абыйдзецца...

Паглядалі цікавыя зоры, як-бы аб нечым перагаварваючыся; па старому перабіралі коні сена, і ўсхліпвала дзяўчынка. На вуліцы пахла жвірам і сьвежым пілавіньнем...

Абсыхаюць платы...

---

## Я КАСЕЦ МАЛАДЫ

### Кастусь Сіпач

Я касец малады,
Кашу травы ў лугох,
Маю сіл хоць куды,
Кожну працу я сілай-бы змог.

Каса сьвішча ў мяне—
Лёгкіх рук ня чуваць.
Праца сьпіну ня гне
І ахвота-ж касою махаць!

Нікнуць травы ў пакат
Пад маёю касой.
Ой, касіці так рад
Я густую траву ды з расой.

Запацею—дарма!
Вецер зьдзьмухне той пот—
Мне вясёла махаць,
А пракосы кладуцца, як плот.

Будуць помніць лагі,
Як умеў працаваць,
Бо высокі стагі
Да зімы будуць гэта стаяць.

Ну дык рэж ты, каса—,
Што люблю, то люблю:—
Вецер вольны, раса
Аблягчаюць мне працу маю!

В. Дайнава, Пухавіцкі р.



У ПАЛЁХ БЕЛАРУСІ

## ВЕСНАВОЕ

Пасьля доўгай, як кажучы, зімы, прышла вясна.

Павячэраеш, ды вышаўшы, сядзеш на прызьбу. Цяпло. Так прыемна сядзець і дыхаць сьвежай паветрай.

Як ні кажы: вясна—слаўная штука.

Адноечы ў нядзельку, вядома, няма чаго рабіць—гэта табе ня лета. Улетку нават і нядзелькі няма—працуй кожны дзень.

Ну, дык вось у нядзельку я і думаю:

— Прайдуся нечага ў лес. Пацікаўлюся...

Пашоў. Але каб ні было нудна, узяў з сабою газэту.

Пахадзіў па лесе...

Начытаўся газэты.

Зусім утаміўся і прылёг крыху адпачыць. Лёг на сьпіну ды й любуюся. Птушкі, усякія мошкі. лётаюць пяюць, хто, як можа, выслаўляюць вясну.

гэтак добра ляжаць на зялёнай траве—лепяй і ня трэба.

Так лежачы я і заснуў. Ня ведаю, колькі я праспаў.

Потым чую са сну, нехта будзіць:

— Дзядзька, уставай.

Я адкрыў вочы:

— Што табе?—чуць варочаючы языком запытаў я.

— Хутчэй скідай вопратку! Гад упоўз. Толькі я падыходжу, а ён і папоўз.

Я падскочыў, як сталёвая спружына.

— Дзе гад?—шукаючы па зямле вачыма, запытаў я.

Я папытаў 'шчэ раз—ніякага адказу. Аглядзеўся вакол няма майго збавіцеля.

— Пашоў!..

А разам з ім пашла і вопратка. Мусіць скучыла заўседы быць на мне.

Ня так шкода было вопраткі як таго, што, ён мяне падманіў. І жонка будзе лаяцца, а гэта для мяне горш усяго.

**Хвошч Палвы.**

# МАСТАЦТВА НА БЕЛАРУСІ

## МЕНСК У ГРАФІЦЫ А. М. ТЫЧЫНЫ

**М. І. Касьпяровіч**

Нашы гарады знаходзяць усё большы адбітак у творчасьці мастакоў. Дзеля таго, што ў нашых гарадох жывуць не адны беларусы, але і іншыя нацыянальнась-



Муляры.

ці, наш горад у розных мастакаў выяўляецца па рознаму. Юдовін, Пэн і інш, паказваюць пераважна яўрэйскі Віцебск, Тычына, Станюта, Кудрэвіч і інш.—беларускі Менск і г. д. Адпаведна тыпам, быту, краявіду, які адбіваюць у сваіх творах мастакі, у працы гэтых мастакоў выяўляецца і свой адмысловы стыль, форма. Апроч таго, традыцыі і мэтаімкнёнасьць




На Менскай чыгуначнай станцыі.

мастака амаль заўсёды супадаюць з уласьцівасьцямі гораду, які ён любіць і адбівае ў сваёй творчасьці. Аднаго мастака захапляюць фарбы і колеры гораду, другога—сьвет і цені, белае і чорнае; апроч таго, у апошнім выпадку горад можа мець рэзкае спалучэньне чорных і белых фарбаў, як, напрыклад, Віцебск, які і знашоў найлепшае сваё выяўленьне ў моцных лініях мастацкіх твораў Юдовіна.

Менск-жа мае больш маляўнічы характар чым Віцебск. асабліва зімой. Тутака менш белых будынкаў. Калі яны ня проста цаглянага колеру, дык афарбаваны ў апэльсінавую фарбу, як фабрыка




На абойнай фабрыцы.

абутку, шэра-блакітную, як будынкі на пляцы волі і г. д. Шэрыя драўляныя дамы перамешваюцца з каменнымі, не ўтвараючы адасобленых груп. Рэзкіх пераходаў ад чорнага да белага тутака знойдзеш мала. Затым адбітак Менску будзе найбольш удалы, калі ўжываць ня лініі, а плямы, якія больш адпавядаюць плямам Менскага гарадзкога краявіду, асабліва, калі наглядаць яго ў зімовую ноч пры электрычным сьвятле.

Загэтым, зусім не выпадкова Менск знайшоў найбольшы адбітак у творчасьці А. Тычыны. Анатолі Мікалаевіч радзіўся ў 1897 г. у Грузьдзёх б Шавельскага пав. Ковенскай губ., у беднай беларускай сям'і. Бацька памёр, калі Анатолю быў год і яго гадавала матка. У сям'і Анатоля вызначалася замілаваньне да музыкі. Брат мастака—добры музыкант. Агульную адукацыю Тычына атрымаў у двухклясовым і гарадзкім вучылішчы. Маляваць пачаў з малых дзён. У 1911 годзе малады мастак прыняў удзел у Шавельскай выстаўцы, на якой былі творы выдатных мастакоў—Чурляніса і інш., і атрымаў пахвальны ліст. Гэта было першае выступленьне Тычыны, з якога і пачаўся удзел мастака у шэрагу іншых выставак да Ўсебеларускай уключна. Пасьля гэтага Тычына вучыўся ў Пензенскім вучылішчы, у студыі Омскага „Общества художников и любителей Степного Края“ і інш. Прыметны ўплыў на Тычыну зрабілі, невядомы Маскоўскі мастак, які быў на кватэры ў маткі у 1910 г. у Шаўлях, Себасьцьянаў і Картукоў у Омску. Мацнейшым быў уплыў Картукова ў галіне графікі. Дзякуючы яму, а таксама сваім імкненьням і ўмовам выхаваньня, Тычына ў Менску, у якім ён з 1920 г., канчаткова перайшоў да творчасьці ў галіне графікі.



На электро-станцыі.

Горад, яго пабудовы, кантрасты асабліва цягнуць да сябе Тычыну як мастака. Адсюль—яго пашана да творчасьці Дабужынскага і Лукомскага. Разам з тым Тычына захаваў сябе ад пераймальнасьці у гэтых мастакоў. У яго творчасьці выпрацавалася замілаваньне да плямаў, бо яны па яго думцы лепш за ўсё перадаюць вячэрні сьвет; яны контрасны і не дазваляюць расплыўчатасьці. Адсюль у яго мала ўвагі лініям, паўтонам; улюбёнасьць у начны горад. Ліхтары ля кіно, у цэнтрах гораду, лямпы на Менскіх заводах даюць Тычыну рэзкія белыя плямы на чорным фоне ценяў або наадварот.

Менск Тычына адбіў у сваёй творчасьці цалкам. Архітэктура, фабрыкі, заводы, быт—усё знашло сваё месца ў працах Тычыны. „На Менскай чыгуначнай станцыі“, „Менская электрастанцыя“ і інш. паказваюць надворны, так кажучы, бок Менску. Але Тычына, у працівагу іншым мастацтвам, дае надзвычайна поўны адбітак і захаванага ў будынак горады, асабліва тых месц, дзе ідзе праца. „На электрастанцыі“, „На абойнай фабрыцы“, „Муляры“, „З ваганеткаю“ і інш. складаюць разьдзел гэтых прац.

Другою асаблівасьцю Тычыны зьяўляецца ужытковы, прыкладны характар яго графікі, як ўсяго нашага народнага мастацтва. Самамэтных графічных твораў у яго амаль што няма



На Менскай чыгуначнай станцыі

# Хвароба, якую трэба папярэдзіць, альбо аб чым гаворыць „Паштовая скрынка“

Я. Чалядзінскі

„... Савецкая вёска і горад жадаюць вясёлага і радаснага. Даволі нуднага суму!

Ня трэба хаваць недахопаў у літаратуры, а крытыкаю пароць гнойнікі праз друк...

(З пісьма Сяргея Астрэйкі, маладога поэты з в. Коласаўшчыны, Слуцкае акругі).

„Паштовая скрынка“ штодзень нас закідае новымі матар‘яламі, якія красамоўна інфармуюць аб тым, што працоўныя масы Савецкай Краіны заняты сур‘ёзнай задачай гаспадарчага будаўніцтва. Аб гэтым сьведчыць кожная корэспондэнцыя з пасяджэньня вытворчай нарады на прадпрыемстве, гэта падкрэсьлівае допіс селькора з пленуму сельсавету, гэта сьцьвярджае б. батрак—сёньня рабочы сельска-гаспадарчай комуны ў вёсцы—усё гэта ўпэўнівае, што працоўныя няўхільна заняты будаўніцтвам соцыялізму.

Другая, важнейшая пасьля гаспадарчай задача,—заўладаць культурай!

Жыцьцё вымагае. Патрэбна ліквідаваць няпісьменнасьць, перабудаваць быт, навучыцца самім тварыць сваю пролетарскую інтэрнацыянальную культуру,—таму ня дзіва, што нашы рэдакцыі закіданы, скрозь да карзіны, літаратурнымі творамі пачынаючых пісьменьнікаў.

Гэтая „стыхія“ ня раз адзначалася ў друку крытыкай.

Аўтары гэтых твораў—выключна моладзь. Малаграматная, бадзёрая, поўная энтузіязму,—пішуць і пасылаюць у друк свае творы з рознымі „справадзіцельнымі“, тлумачэньнямі і просьбамі надрукаваць іх.

Творы пачынаючых пісьменьнікаў праходзяць праз жорсткія рукі рэцэнзэнта, які выносіць свой прысуд: „слаба“, „не падходзіць“, „немастацкі напісана“ „бракуе рыфмы“. Далей ідуць парады: „чытайце больш. літаратуры сталых поэтаў“, працуйце над сабой“... „а не, кіньце пісаць вершы!“

Гэтыя спэцаўскія, казённа-назойлівыя адказы агарчаюць нават чытача, а ня толькі аўтара, яны прыглядзіліся, прыслухаліся, абрыдлі.

„Паштовая скрынка“—верны служака, яна ўсё зносіць, адказвае.

Аўтар ня цярпіць, набіраецца духу, удасканальвае свае здольнасьці,—піша і пасылае новыя творы... ажно... ні слуху, ні духу...

Тады аўтар просіць слова. Паслухаем, мо‘ што новае:

**„Дайце дарогу вясковым поэтам!“**

Хаця я ня пісьменьнік і не сталы поэта, а малапісьменны сялянскі хлапец—пішу вершы—прашу дайце мне слова. Забілася шпарка сэрца і налілося злосьцю, калі я прычытаў у газэтах крытыку на маладых поэтаў.

Нам даюць упрок, што мы памастацку ня ўмеем пісаць, адгукваемся на газэтныя кампаніі, але мы згодны з т. „читателем“, які выказаўся ў „Звезде“, што гэтыя водгукі карысныя. Вясковаму поэту няма калі пісаць пра каханьне, у вольную часіну ён піша аб тым, чым радуецца, аб газэтнай кампаніі, якую праводзіць Савецкая ўлада, аб сваіх дасягненьнях у новым жыцьці.

У маладых вясковых поэтаў шмат бадзёрасьці, яркага агню ў іх творчасьці больш чым у старых поэтаў. Але часта нам даюць такія адказы, што хоць кідай пісаць. Шмат грахоў і ў творчасьці старых поэтаў, але ня трэба хаваць гэтых недахопаў у літаратуры, а ўсякімі способамі пароць гнойнікі праз друк...

Савецкая вёска і горад жадаюць вясёлага і радаснага—даволі нуднага суму“!..

**(Сяргей Адамаў Астрэйка, вёска Коласаўшчына, Слуцкае акругі).**

І не адзін бывае такі ліст. Амаль, пры кожным творы прыкладаецца ліст вострага пачуцьцём зьместу. Вушы літаратараў, асабіста газэтных работнікаў прывыклі да „гласу вапіюшчага ў пустыні“—пачынаючага поэты, ён сабе, не зважаючы на вострыя запросы аўтара—акіне халодным поглядам радкі і сам сабе ў вуме падумае: „слаба ў параўнаньні з творамі Пушчы, а з Крапівой—мала гумару, а сіні карандаш загадзе ўжо мэханічна адкляйміў: „Паштовая скрынка—слаба, больш працуйце над сабой“.

Некаторыя газэтныя крытыкі мелі неасьцярогу абазваць гэта масавае ў сучасны момант зьявішча „вершаманіяй“, „графаманіяй“, чуць ня „плёткаманіяй“, не знашоўшы ў гэтай творчасьці „надстройкі мастацтва“—што ў выніку можа стацца заганай станоўчых момантаў.

Грамадзкасьці добра вядома, што некаторая вусная народная творчасьць як

беларуская, так і іншых нацыянальнасьцяй мінулых сталецьцяў—мае сваю перавагу ў некаторых момантах мастацтва над літаратурнай творчасьцю нашай культурнай пары, што яшчэ здатнейшыя беларускія поэты не дасягнулі гэтай народнай высока-мастацкай асабістасьці ў сваіх творах.

Гэта мастацтва тварылі людзі няпісьменныя, вострым сваім пачуцьцём успрымалі **„радасьць, тугу, сьлёзы“**, акружаючага іх жыцьця, добрай памяцьцю перадавалі ад прадзедаў—унукам.

Наша пара—поўнага вызваленьня—клясавай сьвядомасьці,—уздыму энтузіязму—размаху творчага духу, калі не ўпаўне, дык на палавіну пісьменных людзей.

Кастрычнік узбудзіў, запаліў **„яркія агні“**—(С. А.), трэба, **лепшае выкарыстаць** з гэтае **творчасьці**, а не асаджаць розгамі пачынаючых пісьменьнікаў.

За апошні час **„Беларуская Вёска“** мае значны вопыт з творчасьцю пачынаючых пісьменьнікаў. На старонках **„Чырвонага Сейбіту“** і газэты паступова выяўляюцца, кваліфіцыруюцца новыя творчыя сілы.

Мы прызнаём, што з пачынаючых поэтаў вырасьлі такія здольнасьці, як **В. Маракоў, П. Трус, П. Глебка, С. Дарожны.** Іх некаторай вобразнасьці—старым ня ў сорам пазайздросьціць, іх пяро не абсохне.

Горш за ўсё, што ў сучаснай беларускай літаратуры сустракаецца шмат „грахоў“, якія выглядаюць праз цьмяную шыбу **нацыянал-дэмакратызму, шавінізму** і галоўным чынам **упадніцтва.**

Гэтыя „грахі“ заражаюць здаровых людзей, хвароба пераходзіць ў гнойнік.

І вось дзеля прыкладу, некалькі ад гэтага насеньня ягадак:

О хацеў бы я песьні пяяць,
Каб яны былі ў людзях чуваць...
Можа-б гналі яны ад усёй грамады,
Безнадзейныя думкі нуды (што гэта за думкі і якой „грамады“? Я. Ч.)
Стаў-бы ўсякі ўспамінаць:
На што пот праліваць—
На што песьня чужая яму?—(якая гэта чужая? Я. Ч.)
І пачаў бы сваю, як дубровы шумяць—.
Значна моцную песьню сваю?!.. (Аб чым гэта была-б песьня? Я. Ч.)
І прачнецца ўвес люд,—
Будзе пець пачынаць,
Шыр вялікіх палёў
Будзе зноў падымаць...
Рэчка зноў забурчыць,
Прападзе ўся нуда,
Будзе ўсюды адна, заўжды песьня чутна.
(Няхай жыве лістападаўшчына! Я. Ч.)

**Васіль Дзямідовіч. (М-к. Капыль).**

Аб чым аўтар гэтага вершу „сьпявае“ здаецца ясна, лішніх камэнтарыяў не патрабуецца.

Вочы разгараюцца, зубкі вострацца;

„Другім ня тутэйшым пакажацца дзіка...
Дык вышэй нясіся грамадзкая песьня.
Рві тыя канаты, якімі ты скута!..—(ого! Я. Ч.)
Тчы новыя ніці, для новага жыцьця!—(войстра нечым пахне Я. Ч.)

**В. Дзямідовіч.** (Капыль—Масква).

Чым дальш у лес, тым больш дроў: „т. Рэдактар! Пасылаю вам другія вершы, хаця вы яшчэ першых не надрукавалі. А ўсёж я спадзяюся... Каб не пацешыўся, так-бы павесіўся...

**Дзямідовіч.**

Яшчэ „пясьняр“ пасьвячае адзін верш Якубу Коласу:

„..Не, гэта ня колас—
Колас шумець так ня можа
Гэта сваволіць уся шыр
беларускага збожжа,
Гэта гучаць патаемна—цудоўныя зыкі
Даль разрываючы дзіўныя сьпевы —
народу—музыкі...
. . . . . . . . .
...Хто ўзбудзіў вашы лёсам забытыя хвалі?
Хто запяе вашу песьню жальбы?

В. Д.

. . . . . . . . . . .

Дзевятнаццаці гадовы блазан Дзямідовіч ня ўспрымае сучасных мотываў творчасьці Коласа і іншых поэтаў. Ён жыве „адраджанізмам“, смутнай мінуўшчынай Коласа:—„нас падзялілі, хто... цёмных дарог махляры“, і іншых народнікаў. Ён гадунец яра-выступаючага над дэмакратызму і шавінізму, яго загнаіла гэтае балота“ безнадзейных думак нуды“, і ня бачачы пэрспэктывы „лістападаўшчыны“ у моцнай савецкай грамадзкасьці — яго даводзіць да—вяровачкі.

Не адзінокі сваімі настроямі Дзямідовіч сярод пачынаючых поэтаў.

Дзіцячага ўзросту—вучань менскай сямігодкі Я. Млыноўскі „жыве спадзеяй“, „заўсёды кажа адно“:

... А ўсё мне нудна кругом
Ня можна пяром апісаці...
Заўсёды кажу аб адном:
Прыдзе скора пара,
Гляне сонца з двара
Яшчэ хтось загляне...
(Нешта кроўнае з Дзямідовічам Я. Ч.)

. . . . . . . . . .

І пасьля ўсяго гэтага, скардзіцца хлопец словамі Максіма Багдановіча: „жалем сьціскаюцца грудзі".

Гэта не бязглузьдзіца М. Грамыкі:—„з вуснаў у вуха, з сэрца ў мозг!" Моцныя карэньні! Ярая атака наступаючага ворага.

Больш „культурныя" поэты падхопліваюць кволыя мотывы ўпадніцтва Я. Пушчы і заплюшчыўшыся ўдасканаліваюцца:

О, ты сэрца, пужлівая птушка,
Ты ня рвіся закуты зьвярок..
У вачох смутку туманнага раньня—
Палахлівы напружаны крок.

. . . . . . . . . .

Чаго гэта ён пужаецца гэты няпрытомны чалавек? (Я. Ч.).

Буду іці, ды іці ўсё ўпярод...
Буду з зоркамі ў небе гуляці,
Разам з імі вадзіць карагод...

А хто-ж і за што карміць будзе гэтага лодыра, бяспутнага казла з вышкі парнасу?—Запытае працоўны чытач. А як па вашаму т. М. Чаромуха—маладняковец Бабруйскай філіі, га?

Другога „сына вёскі" Я. Варафікіна „есьць іржа", ён ніяк „няўзьніме вачэй" нават у „сонечны дзень".

У яго песьня родзіцца... і „на паўслове абрываецца"... „льлецца голасна войкату жаль"...

І ўсяму гэтаму, пад акомпонімэнт „лемантуе ліра" струною парванай" — З. Бандарынай—прадбачучы: „у палёх разоры, у жыцьці разоры"—менскага мяшчанства.

Вось яны „мэлёдыі":

Лемантуе ліра
Струною парванай.
Голыя палеткі, голыя палі...
Ой, ня люба песьня чыстага мажору...
Усклыхнула радасьць, радасьць і туга.
У палёх разоры, у жыцьці разоры...
Ой, ды ты, каліна, у просіні адна...

Заслона зачыняецца. Гэта найбольш характэрныя „сьліўкі" з кіпы матар'ялаў. Агульны „душок", якім востра аддаюць пачынаючых паэтаў, гэта першае — ўпадніцтва, другое—струнка нацыянал-дэмократызму і шавінізму...

Адкуль пачатак гэтага зьявішча, дзе яго карэньні?

Адзін пачынаючы поэта з Узьдзенскага раёну прынёсшы свае ўласныя творы падобнай якасьці ў рэдакцыю тлумачыў на гэта пытаньне так: „мы чытаем кніжкі як старых, так і маладых беларускіх поэтаў і там „гэта" ёсьць, шмат якіх рэчаў мы не разумеем, але вучымся, падражаем".

Прыпамінаецца факт падражаньня з практыкі ў Мазырскай акрузе. Прачытаўшы фэльетон Крапівы, у якім супрацістаўляўся горад вёсцы (аб гэтым была крытыка ў газэтах)—адзін актыўны селькор прыслаў аналёгічнага зьместу свой фэльетон, у якім таксама супрацістаўляў вёсцы рабочы дом воддыху ў іх раёне. Нельга казаць, што гэта не ад уплыву.

Чытаючы хворую літаратуру пачынаючыя, малапісьменныя поэты міжвольна набіраюцца гэтае хваробы, пасьля чаго, трудна без дапамогі (крытыкі) вылячыцца.

Бяспрэчна, што базай гэтага настрою зьяўляецца кулак у вёсцы, а нэпман у горадзе,—гэта пачатак крыніцы. Да гэтага „асноўнага" шмат ёсьць дадатковых перадатчыкаў - астаткі эсэраўшчыны сярод інтэлігенцыі, людзішак зьместу „шчырых беларусоў", якія пры дапамозе сваёй культурнасьці праводзяць гэты ўплыў на моладзь і акружаючых.

Наша літаратура (рэч ідзе аб друкаванай) як старых, так і некаторых маладых пісьменьнікаў аддае, часамі, гэтым „душком" і запазычае другім—у чым бязумоўна правы С. Астрэйка і тав. з Узьдзенскага раёну.

„Востры пах атрупелай зямлі"—не паносу зоароваму чалавеку. Горкія сьлёзы па праху ясеніншчыны: „Па поэце Разанскіх ніў беларуская песьня плача"—з сьмеласьцю бярэ слова ад імя беларускай песьні А. Дудар і нарэшце ізракае: „завядуць мяне ў зьвярынец і напішуць: рукой не чапай!.Другі спачуваючы пакойніку, кажа: „Мне ўсё зразумела і проста" і, нарэшце упэўнівае сваім прадсьмертным зборнічкам „Табе" А. Вольны.

Я. Пушча запаліўшы ў дзень ліхтарáю вобмацкам бярозавым кіем шукае сьцежкі да спальні Вэнэры Мілоскай. А вылучэнец з пачынаючых поэтаў Кляшторны з лёгкай рукі старых друзей пад звон гітары акспэрымэнты ўтварае:... „Пятух малоціць старую салому і топча па чарзе прысядзістых курэй."—„Што-ж (любата!) як відаць па шляху ясенішчыны яблачка коціцца.

Здаровая грамадзкая думка кажа: **Даволі нуднага суму!**

Група поэтаў з калініншчыны просіць зьмясьціць наступнае;

**„Прысьвячаем поэту Пушчу і другім падобным“.**

Хто такі ты Пушча?
Што ў цябе на сэрцы
Яд, атрута, млосьць?!
Табе ў дзень цёмна,
Цёмна як у ночы.
Бо чаму ты кажаш:
Запалю ліхтарню

. . . . .

Годзі пляміць нашы песьні
Голас скора ўжо ваш трэсьне!

. . . . .

Вывады просяцца самі--хваробу трэба папярэдзіць. Здаровая грамадзкая думка павінна завастрыць сваю ўвагу, асудзіць нездаровае ў гітаратуры разлагаючае маладыя расткі савецкай грамадзкасьці. Марксысцка-ленінская крытыка павінна спаткаць падобнага роду творы на парозе з друкарні і зараз-жа папярэджваць грамадзкасьць смелавой крытыкай праз друк аб татунку і якасьці таго ці іншага твору пісьменьнікаў. Больш увагі пачынаючым маладым пісьменьнікам, больш увагі іх выхаваўчай працы.

**Я. Чалядзінскі.**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Кляшторны „Кляновыя завеі“ Вершы Выданьне ЦБ Маладняка Менск, 1927 г. стар. 44 цана 30 к.**

Кожны поэта ці пісьменьнік, як суглядальнік усяго навакольнага, адным захапляецца болей, другім меней, іначай кажучы адны мотывы ў яго творчасьці перапажаюць над другімі.

У зборніку „Кляновыя завеі“, як паказвае сама назова, першае месца займае мотыў прырода-апісаўчы. На прыроду Кляшторны глядзіць вачмі замілаванага маладога мастака; прырода захапле сабой усю яго істоту, шыр яе чаруе яго, ён прыносіць ёй шчырую дань, амаль чуць ня кожным сваім вершам і зусім зразумела, бо:

Тут кожны куст пяе каханьне,
Тут рэчка казкаю журчыць,
Аповесьць доўгую змаганьня
Тут навявае кожны крыж.

Зборнік „Кляновыя завеі“ зьяўляецца зборам індывідуальных пачуцьцяў і настрояў самога аўтара якія бываюць то радаснымі, то сумнымі.

Пачнем з суму.

Галоўная прычына суму не грамадзкага характару, а псыхолёгічнага, гэта разьбітае каханьне. Прышоўшы па няведамых дарогах з сваёй каханай у сягоньне, зусім раптам здараецца тое, чаго і сам ніколі не чакаў:

Чаму-ж так неба вычарнілі хмары,
Чаму згарэла месячная сінь,
Чаму любімая на ледзяной гітары
Ты адпяваеш сонечныя дні?

Растаньне. Спатканьне з другой, і:

Я па другой знашоў другія раны,
Ды толькі шчырасьці ўчарайшай не нашоў.

Гэтая няшчырасьць і раны даводзяць поэту да вялікага суму, які пераходзіць у стадыю хворасьці астаўся адзін „сяджу адзін... сягодня я адзін“, ад чаго „у сэрцы тысячы абшчыпаных асін“ і як вынік гэтага „вяне слоў няскончаны вянок“, пад канец чаго і трэба было чакаць:

І хочацца так мне
Заплакаць ў гэту стынь,
І нажыцьцёвай выцьвіўшай даліне.
Губляць лісты, кляновыя лісты.

Нават і жыцьцёвая даліна выцьвіла. Недарма-ж і думка яго робіцца забытай капліцай, у якой „па далёкаму плачуць званы“, а гэтым далёкім і такім мілым ёсьць учарайшае шчырае каханьне якое так трагічна для яго разарвалася ў сягоньняшнім.

Але гэтыя настроі праходзяць „мінае сум“ і Кляшторны становіцца зусім процілеглам вершаму, гэта другі Кляшторны, бадзёры і радасны, а не сьлязлівы:

Але што маладому кіпучаму
Гэты холад апошні завей.

Ён не баіцца ані якіх жыцьцёвых перашкод, якія напаткае на жыцьцёвым шляху, бо ведае, што ідзе „к дарагім далёкім маякам“. У сягоняшнім цяпер ён бачыць ня восень, а вясну жыцьця, захапляючыся ёй:

Нашых дзён залатая вясна
Не пакіне ў душы комсамоліць.

Кляшторны добра разумее, што старогэ не падніме́цца, не ажыве, бо яно ляжыць на сьмяротнай пасьцелі, паміраe, яму яго зусім ня шкода:

Не хачу над здыхаючай клячай
Я плясьнівым псалтырнікам ныць,
Я хачу скрозь туман раскудлачваць
Усходзячыя косы зарніц.

І далей:

На заспаныя гоні
Прывяду я стальнога каня

Поэта нават выказвае любоў гарадзкой культуры, бо ведае, што толькі стальны конь ўздымае гоні.

Ён верыць у разьвіцьцё нашае індустрыі, якая ў хуткім часе шырокамі крокамі ўзойдзе на загоны цёмнае вёскі

Скора ў сінь сталёваю брыгадай
На палёх засьвішчуць салаўі.

У зборніку „Кляновыя завеі“ Кляшторны выступае у дзьвюх асобах зусім не падобных адна на другую. Адна хворая, бы схіляецца і хоча маліцца „над чаркай выпітых гадоў“, другая здаровая, бо ідзе па шляху:

„Дзе жыцьця зоры сьвяцяць,
Дзе ў кожным сэрцы б'еццa комсамол.

Трэба пажадаць нашаму поэту хутчэй зжыць хваравітасьць,ісьці бяз хістаньняў і па аднаму шляху, па шляху сягоняшнім, менш замыкацца ў свае „я“, а бліжэй да грамады і глыбей у яе. Бо шлях гэты цікавы, здаровы і карысны для поэта.

З мастацкага боку некаторыя вершы заслугоўваюць сур'ёзнай увагі, але часта сустракаецца, не дасканальная апрацоўка вершаў, спатыкаюцца дзеяслоўныя граформы, якіх неабходна ўнікаць. Трэба адзначыць, што вобразнасьць Кляшторнага ў большасьці шчырая, ня выдуманая з галавы, ня мёртвая, а ўзята з прыроды, жыцьцёвая. Гэта адзін з лепшых бакоў зборніку.

У далейшым таксама трэба вызваліцца з пад уплыву Есеніна і Дубоўкі, бо толькі вызваліўшыся з пад чужога ўплыву кожны поэта можа даць для літаратуры сваё і самабытнае.

**І. Плашчынскі.**



У ваколіцах Менску

# Паштовая скрынка

**Бародку Пархвену**. Калі ў Вас больш ёсьць творы—прышлеце іх у рэдакцыю. „Восень“—ці гэта Вамі запісана народная песьня, ці гэта Ваш твор? Калі будзеце больш прысылаць творы, тады адпішэце.

**Антосю Жалуновічу**. Прышлеце больш твораў, калі ў Вас ёсьць, тады можа што выберам да друку.

**Некрашэвічу Янку**. „Доля сіраты“—цікавы верш па свайму глыбокаму зьместу. Толькі напісаны слаба. Пастараемся яго выправіць і надрукаваць.

**С. Новікаву**. Аб вёсцы вы пішаце:

Сама паступова
Яна тут загіне.
Ніхто не заплача
У роднай краіне...
Хто-ж ёй дапаможа?..

Дапаможа вёсцы Савецкая ўлада. Вёска не загіне—паступовае падняцьце гаспадаркі, якое на нашых вачох адбываецца, якраз вядзе вёску да слаўнага жыцьця. Нядобрыя-ж зьявы ў вёсцы, як п'янства і інш., ёсьць толькі перажыткі старога жыцьця вёскі. Гэтыя перажыткі адамруць і вось над імі—ніхто не заплача.

**Р. Пятроўскаму**. Лоўкі, знаеце, верш напісалі Вы:

Мы курсанты А. Б. Ш.
Мы рэспублікі душа...
Дух бадзёры малайца
Ламца-дрыца-го-ца-ца!..

Лоўка! Але ня усё лоўкае друкуецца. Не займайцеся такою лоўкасьцю.

**Кастусю Ярмаку, Скрыпховічу, Ліньніку, Мацьвеяву, П. Бульбяніку, Фалькоўс:аму**—у друк ня пойдзе.

Галоўлітбел № 25251. Надрукована 15 тысяч экз. Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.